# З 600-гадовым юбілеем, родны горад!

**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 27 (743) 3 ліпеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае






**Споўнілася 70 гадоў з дня заснавання Глыбоцкага педагагічнага вучылішча. З 1944 па 1955 гг адбылося 8 выпускаў, вучылішча скончыла 487 будучых настаўнікаў. Сёлета, 29 чэрвеня, адбылася 15-я штогадовая традыцыйная сустрэча выпускнікоў. На яе прыехала 8 выпускнікоў: Эдмунд Гірын, Мар'ян Кордас (г. Мінск-Мазавецкі, Польшча), Кліменцій Кожан, Вольга Рымко (Смаляк), Гертруда Паляк, Дзмітрый Кукоўскі, Ніна Краміч, Канстанцыя Шаховіч. Дарэчы, вучнямі Вольгі Іванаўны Рымко з'яўляюцца два кіраўнікі раёнаў – браты Морхаты: Мечыслаў і Алег.**

**Сустрэча адбылася ў Глыбоцкім дзяржпрафліцэі, пераемніку педвучылішча. На ёй прысутнічала яго дырэктар Валянціна Анатольеўна Шынкевіч. У ліцэі ствараецца музей Глыбоцкага педвучылішча.** *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

## Гарадоцкі раён

# Для тых, хто ў бядзе

■ Станіслаў Раманчук

**Сур'ёзнай праблемай для любога грамадства з'яўляецца праблема дапамогі найбольш сацыяльна неабароненым людзям.**

З гэтай мэтай у Беларусі распрацавалі комплексную праграму дапамогі да 2015 года і толькі на Віцебшчыне за два апошнія гады павялічылі амаль на 200 ложкаў колькасць месц у спецыялізаваных прытулках і дамах-інтэрнатах. У гэтым накірунку ў вобласці вырашылі прадоўжыць працу і на чарговай сесіі абласвета дэпутатаў вырашылі пабудаваць у Гарадоцкім раёне і Дом міласэрнасці. Для яго размяшчэння выбралі аграгарадок Бычыха, а сам аб'ект уключылі дадаткова ў абласную інвестыцыйную праграму на гэты год. Новы Дом міласэрнасці будзе прадназначаны для комплекснага абслугоўвання найперш інвалідаў і пажылых адзінокіх людзей, якія апынуліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі і не маюць месца, дзе жыць. Дарэчы, такая праблема актуальная ў рэгіёне, бо толькі ў гэтым раёне паблізу абласнога цэнтра цяпер налічваецца больш тысячы інвалідаў і яшчэ 514 прэстарэлых не маюць ні родных, ні блізкіх, дажываюць свой век у адзіноце. Акрамя сродкаў з абласнога бюджэту разлічваюць і на добраахвотныя ахвяраванні ўсіх жадаючых, працягнуць руку дапамогі старым нямоглым. У новым Доме міласэрнасці пастараюцца стварыць аптымальныя ўмовы пражывання для пацыентаў. На базе цэнтра плануецца весці навучанне сучасным метадам догляду, дапамогі цяжка хворым інвалідам. Для будучых пацыентаў прадугледзяць усе патрэбныя аб'екты з кухняй, медыцынскім блокам і каплічкай для вернікаў. Для пражываючых, як і ў іншых месцах, пастараюцца арганізаваць і культурны адпачынак і знаёмства з чароўным светам камп'ютарных тэхналогій для жадаючых.

## Пастаўскі раён

# Толькі б хапіла трасты

■ Кастусь Александровіч

**Маштабныя задачы па мадэрнізацыі айчыннай пармысловасці чамусьці сталі сутыкацца з рознымі непрадбачанымі праблемамі.**

Восень і ў Паставах запрацаваў узведзены новы сучасны сырны завод побач са старой вытворчасцю, аднак для абодвух прадпрыемстваў цяпер проста не хапае малака для поўнай загрузкі вытворчасці. На канец лета ў райцэнтры запланавалі запуск у эксплуатацыю і новага льнозавода, аднаго з самых сучасных у Беларусі, аднак і тут могуць мець падобныя цяжкасці з сыравінай. Хоць мадэрнізацыя гэтага завода знаходзіцца пад пільным кантролем урада і асабіста прэм'ер-міністра Беларусі М. Мясніковіча, не ўсё ўдаецца вырашыць, як першапачаткова планавалася. Будаўнікі, праўда, у асноўным узвялі новыя вытворчыя карпусы, будынак кацельні, навесы для трасты, а бельгійскія спецыялісты зманціравалі дзве лініі па выпуску доўгага і кароткага валакна. Аднак з-за перабояў з фінансаваннем не атрымалася правесці запуск прадпрыемства з 1 мая, а потым – у чэрвені, яго адклалі на канец лета. Новы завод з бельгійскай начынкай патрабуе на сезон перапрацоўкі лёну 10 тысяч тон якаснай сыравіны. На практыцы пастаўчане ў самыя спрыяльныя гады ніколі не нарыхтоўвалі льнотрасты болей 4,5 тысяч. Сёлета мехатрад Пастаўскага льнозавода павялічыў пасевы даўгунцу да 1300 гектараў з леташніх 950 га. Пэўную колькасць сыравіны дабавяць і шэраг мясцовых гаспадарак, але ўсё роўна будзе толькі палова ад патрэбных аб'ёмаў. Астатнюю частку льнотрасты загадалі паставіць заводу з суседніх Докшыцкага і Шаркоўшчынскага раёнаў, а як атрымаецца на практыцы, стане вядома восенню.

## Докшыцкі раён

# Яшчэ адно кафэ

■ Чэслаў Якубовіч

**Пакрыху і асноўныя беларускія аўтамагістралі набываюць сучасны цывілізаваны выгляд.**

У гэтым сэнсе пашчасліла асабліва Докшыцкаму раёну, па тэрыторыі якога праходзіць важная дарога М3, якая з'яўляецца своеасаблівымі варотамі Прыдзвіння па суседству з Міншчынай. У Бярэзінскім краі зараз працуюць на гэтай трасе нават 8 аўтазаправачных станцый, на ёй у Бягомлі пачаў дзейнічаць і магазін вядучай гандлёвай сеткі "Еўраопт". Днямі таксама ва ўрачыстай абсталёўцы адкрылі другое па ліку сучаснае кафэ прыдарожнага сервісу "101 кіламетр" з кругласутачным рэжымам абслугоўвання. На гэтым месцы дагэтуль размяшчалася прыдарожная гасцініца, але яна не прыносіла прыбытку і вырашана было аб'ект пераабсталяваць. Падобнае суседнее прыдарожнае кафэ на тэрыторыі раёна сябе апраўдвае, яго месячны абарот перавышае 800 мільёнаў рублёў. На ўсе работы па абуладкаванні новага кафэ, пачынаючы ад праектавання пайшло 9 месяцаў, бо іх правяла прыватная фірма "Буд Сфера" па заказу РУП "Беларуснафта-Віцебскаблнафтапрадукт". У выніку атрымаўся выдатны аб'ект, разлічаны на 40 пасадачных месц. Для працы ў кафэ, для якога прадугледзілі і летнюю веранду, адабралі 26 чалавек. Для вадзіцеляў у кафэ прадугледзілі разнастайнае меню з гарачымі стравамі. Есць тут і кафэ-бар, дзейнічае сістэма самаабслугоўвання і сучасны санвузел, падлога з падагрэвам. Першыя дні працы кафэ паказалі, што яно стала папулярным сярод аўтамабілістаў

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 03.07.14 | | | | Пятніца 04.07.14 | | | | Субота 05.07.14 | | | | Нядзеля 06.07.14 | | | | Пн.07. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +16 | +20 | +18 | +14 | +18 | +24 | +21 | +16 | +19 | +26 | +22 | +19 | +22 | +26 | +24 | +20 |
| Ціск | 755 | 756 | 757 | 757 | 756 | 756 | 754 | 752 | 750 | 749 | 747 | 746 | 747 | 748 | 748 | 748 | 747 |
| Вільготнасць | 86 | 75 | 54 | 61 | 83 | 71 | 43 | 58 | 80 | 68 | 45 | 61 | 90 | 85 | 57 | 68 | 88 |
| Вецер м/сек | 1 З | 3 С | 4 З | 3 З | 2 Ю-З | 2 Ю-З | 4 Ю | 5 Ю-В | 6 Ю-В | 6 Ю-В | 7 Ю | 5 Ю | 3 Ю | 1 Ю-З | 3 Ю | 3 Ю-В | 4 Ю-В |

# Аб самым надзённым

## Разгрузіць склады ледзь не дадумаліся ўвядзеннем у нас забароны на ўвоз імпартных тавараў



■ Аляксандр Цішкевіч

**А вось нашы суайчыннікі цяпер ездзяць за мяжу, а многія і не хаваюць, што там менавіта купляюць для сябе адзенне, абутак, бытавую тэхніку і нават прадукты харчавання. Сакрэт такога шопінгу просты: замежныя тавары больш танныя, а па якасці апярэджваюць многія айчынныя аналагі.**

Апошнім часам актывізаваўся, беларускі ўрад, хоць кіраўнік дзяржавы днямі зноў выказаў незадаволенасць дзейнасцю асобных упраўленцаў Саўміна. Больш таго А. Лукашэнка намякнуў, што праз пару месяцаў могуць быць сур'ёзныя кадравыя змены на ўрадавым узроўні і сярод гендырэктараў буйных прадпрыемстваў, якія не могуць, альбо не хочуць працаваць так эфектыўна, як на "Беларуськаліі". Многім цяпер стала відавочна, што айчынная эканоміка і сёлета не ў самай лепшай сваёй форме, намецілася нават пэўная стагнацыя.

А тут яшчэ і асноўны саюзнік Расія не надта спяшаецца нам дапамагчы ў няпростай сітуацыі. Нават абяцаны яшчэ летась міждзяржаўны крэдыт РФ у суме 2 млрд. долараў у лепшым выпадку наша краіна атрымае напрыканцы лета, а вось валюта беларусам вельмі патрэбная. Неспакойна і на спажывецкім рынку, бо, да прыкладу, у Віцебскай вобласці многія прадпрымальнікі паведамілі, што ў ліпені яны не будуць працаваць і не будуць плаціць падаткі. Яны правялі папярэджальную забастоўку ў абласным цэнтры, значная колькасць гандлёвых павільёнаў і ралетаў былі замкнутыя, бо не мелі дакументы пра якасць тавараў, купленых на расійскіх аптовых рынках.

З іншага боку па прэзідэнцкім ўказе гандлярам на рынках дазволілі прадаваць рэшткі закупленых раней тавараў да канца сакавіка 2015 года. Аднак у людзей няма веры, што розныя праверачныя не стануць патрабаваць сертыфікатаў якасці і выпісваць у выпадку іх адсутнасці вялікія штрафы. Справа ў тым, што беларускі ўрад з падачы пэўных галіновых лабістаў ледзь не ўляпаўся ў новую авантуру. У аўторак 17 чэрвеня з'явілася інфармацыя, што ў Беларусі можа з'явіцца новая катэгорыя спецімпарцёраў і за дзяржавай меркавалася пакінуць права рэгулявання ўвозу імпартных тавараў, аналагі якіх вырабляюцца і ў нас.

Сталічныя ўлады правялі нават аператыўную нараду і загадалі на працягу тыдня паліцы мінскіх гандлёвых цэнтраў зачысціць ад замежных тавараў і замяніць іх беларускімі ў прапорцыі 15:85. Аналагічную ідэю перад гэтым публічна агучыў і беларускі прэм'ер М. Мясніковіч, хоць яна абсурдная і супярэчыць нават нормам, прапісаных у дакументах Мытнага саюза РФ, РБ і Казахстана. Крэмль адразу выказаў непаразуменне такімі дзеяннямі беларускага кіраўніцтва. На шчасце, у беларускай сталіцы адумаліся і прэс-служба Міністэрства прамысловасці Беларусі паведаміла, што такім гігантам айчыннай прамысловасці, як МТЗ, МАЗ, "Белшына", "Атлант" і іншым не будзе прадастаўлены статус спецімпарцёраў.

А папярэднія намеры на забарону ўвозу імпартных тавараў выклікалі справядлівую крытыку з боку дзелавых колаў, да і насельніцтва да гэтага адмоўна аднасілася. Раней меркавалася на паўгода практычна абмежаваць доступ на беларускі рынак не толькі бытавой электронікі, але і грузавых аўтамабіляў, шын, станкоў, рухавікоў, сельскагаспадарчай тэхнікі і іншых тавараў, адгарадзіцца ад свету штучным бар'ерам. Так што пакуль парадуемся, што інстытут спецімпарцёраў загадаў доўга жыць. З іншага боку расслабляцца суайчыннікам не выпадае, бо падатковым органам прадаставілі права атрымліваць у банках звесткі аб набыцці насельніцтвам замежнай валюты.

Таксама беларускі ўрад з падачы галіновага міністэрства аховы здароўя не дазволіў прыватным медыцынскім цэнтрам выдаваць сваім пацыентам лісткі непрацаздольнасці. Тыя, хто лечыць свае хваробы за грошы, пасля аперацый і заканчэння курсу лячэння павінны за бальнічнымі звяртацца ў дзяржпаліклінікі. А цяпер летам зноў на Віцебшчыне і на Гродзеншчыне зноў абвастрылася сітуацыя з афрыканскай чумой свіней, тая ж свініна падаражэла істотна ў 1,5 разы з пачатку года, становіцца ледзь ці не дэлікатэсам на фоне падаражэўшага і мяса птушкі.

Тым часам у нашай краіне мінула ўжо 20 гадоў, як адбыліся першыя прэзідэнцкія выбары. Да гэтай даты своеасаблівы падарунак атрымаў вядомы праваабаронца Алесь Бяляцкі, які па амністыі быў раптоўна вызвалены з калоніі. Такі крок улад Беларусі віталі Еўрасаюз і ЗША, у адносінах з тымі ж амерыканцамі намеціўся "пэўны прагрэс", як і на перамовах аб аблягчэнні для беларусаў умоў атрымання шэнгенскіх віз. Пачаўся таксама і дыялог з Захадам аб прадастаўленні новых крэдытаў МВФ і іншых замежных арганізацый.

А вось нашы суайчыннікі цяпер актыўна ездзяць за мяжу, а многія і не хаваюць, што там менавіта купляць для сябе адзенне, абутак, бытавую тэхніку і нават прадукты харчавання. Сакрэт такога шопінгу просты: замежныя тавары больш танныя, а па якасці апярэджваюць многія айчынныя аналагі. Калі будзе наадварот, беларусы паедуць за граніцу адпачываць, а не затарвацца, але аб гэтым можна пакуль толькі марыць.

## Дзень за днём

**Прэзідэнт адклаў разборкі з урадам Беларусі да восені. Нацбанк РБ выказаў занепакоенасць нябяспечным узроўнем знешняга доўгу банкаў. Урад краіны пашкадаваў грошай і скараціў дзяржпраграму рэканструкцыі і будаўніцтва свінакомплексаў. Год назад цэны на тавары і паслугі ў Беларусі былі танней на 20 %. Зарплату ўсім медработнікам павысяць толькі восенню, хоць абяцалі зрабіць у ліпені. Замест існуючых 135 ваенкаматаў пасля аптымізацыі застанецца толькі 91. Беларусы ўвайшлі ў дзясятку краін свету, дзе найболей кураць. Да канца летніх канікул да Інтэрнэту падключаць апошнія 5 % беларускіх школ, якія не мелі доступу да Сусветнай сеткі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Генсек Савета Еўропы Т. Ягланд і Еўрасаюз запэўнілі ўлады Украіны ў сваёй падтрымцы і асудзілі злачынныя дзеянні прарасійскіх баевікоў-сепаратыстаў у Данбасе.

**Кітай.** Краіна падпісала кантракт з брытанскай кампаніяй BP аб пастаўках звадкаванага газу на працягу 20 гадоў на суму 20 млрд. $ і аб сумеснай здабычы газу ў КНР.

**Расія.** У выніку тэхнагеннай аварыі і выбуху ноччу газу на Ачынскім НПЗ узнік вялікі пажар у Краснаярскім краі, адразу загінула 6 чалавек, шмат было параненых.

**Англія.** У інтэрв'ю Бі-бі-сі экс-дзяржсакратар ЗША Хілары Клінтан заявіла, што Расія магла б стаць вялікай краінай, але яе лідар У. Пуцін зрабіў іншы "смутны выбар".

**Расія.** Глава "Газпрама" А. Мілер прызнаў, што спыненне паставак газу Украіне можа адбіцца і на партнёрах холдынга ў Еўропе, пры збоі транзіту пацерпяць шэраг краін.

**Карэя.** Прэзідэнт Пак Кын Хе адправіла ў адстаўку адразу сем міністраў урада краіны, яны пазбавіліся пасад за крушэнне парома "Севоль", калі загінула больш 300 чалавек.

**Францыя.** Глава аўтаальянса Renault-Nissan Карлас Гон паабяцаў, што ў 2018 годзе на дарогах з'явяцца легкавыя аўтамабілі з аўтапілотам, іх распрацоўкі вядуць фірмы свету.

**Італія.** Гендырэктар кампаніі Indesit у СНД Ф. Кальтэнбах заявіў, што на 100 % упэўнены ў надзейнасці халадзільнікаў расійскай зборкі, якія забаранілі прадаваць у Беларусі.

**ЗША.** Вучоныя Гарвардскага ўніверсітэта пасля серыі вопытаў на мышах распрацавалі вакцыну са ствалавых клетак, якая істотна зніжае рызыку ўзнікнення інфаркту.

**Англія.** Руская служба Бі-бі-сі паведаміла пра забарону Міністэрствам культуры РФ да паказу ў Расіі знятага ў Чачні мастацкага фільма пра дэпартацыю 0,5 млн. чачэнцаў.

**Расія.** Краіна падняласа на 5-е месца ў свеце па колькасці багацеяў, ужо 108 чалавек маюць па 1 млрд. USD і болей, аднак болей 16 % насельніцтва жыве за рысай беднасці.

**ПАР.** Паліцыя Кептаўна арыштавала надта раўнівага мужчыну, які забіў нажом і з'еў сэрца 62-гадовага саперніка, новага каханага сваёй былой чорнаскурай сяброўкі.

**Данія.** Другі год запар сталіцу краіны Капенгаген прызналі лепшым горадам свету для жыцця людзей, выдатнымі мегаполісамі таксама прызналі Токіо, Мельбурн, Стакгольм.

**Францыя.** Пасля паўгоду знаходжання ў непрытомнасці выйшаў з комы ў шпіталі знакаміты пілот Формулы-1 М. Шумахер і быў пераведзены на рэабілітацыйнае лячэнне.

**Бразілія.** Глава ФІФА Йозеф Блатэр заявіў, што клубы Крыма не змогуць па міжнародных правілах гуляць у чэмпіянаце Расіі па футболе, бо Крым частка Украіны.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Крэмль акажа фінансавую падтрымку А. Лукашэнку, як заявіў былы глава Нацыянальнага банка Беларусі С. Багданкевіч, для перавыбрання на чарговы прэзідэнцкі тэрмін.

**Касцюковічы.** Урад РБ вырашыў дапамагчы Беларускаму цэментнаму заводу і падобным у Крычаве і Краснасельску разлічыцца за атрыманыя кітайскія крэдыты на мадэрнізацыю.

**Мінск.** Павышэнне пенсійнага ўзросту ў Беларусі, як зноў пацвердзіла міністр працы і сацабароны М. Шчоткіна, цяпер пакуль не разглядаецца, але памеры пенсій невялікія.

**Салігорск.** ААТ "Беларуськалій" павялічыў на 47 % адгрузку на экспарт калійных угнаенняў і зарабіў за 4 месяцы 860 млн. долараў пры зніжэнні цаны на прадукцыю.

**Мінск.** Па ацэнках экспертаў, сталічны завод колавых цягачоў прададуць расійскаму холдынгу "РТ-аўта" за амаль 300 мільёнаў долараў з іх 200 мільёнаў пойдзе на яго мадэрнізацыю.

**Гродна.** Расійская кампанія "Газпрам" не вызначылася, ці прыме яна ўдзел у конкурсе па набыцці 25% + 1 акцый ААТ "Гродна Азот", на яго прэтэндуюць яшчэ 3 фірмы з Расіі.

**Мінск.** Былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, генерал-маёр запасу Валерый Фралоў заявіў пра намер удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2015 г. пры падтрымцы былых вайскоўцаў

**Гомель.** Пасля аднаўлення рэгулярных авіярэйсаў на Мінск міністр транспарту і камунікацый РБ А. Сівак паведаміў, што для такіх ліній закупяць чэшскія самалёты Л-410.

**Мінск.** Галоўны рэдактар газеты "СБ. Беларусь сегодня" Павел Якубовіч рэзка раскрытыкаваў расійскіх шавіністаў і тэлеканал Расія-1 за заклікі пачаць вайну з Украінай.

**Барысаў.** Ураджэнку горада Н. Красоўскую, якая стала ваяваць за баевікоў у Данбасе, змясцілі ў бальніцу пасля моцнай кантузіі пад Славянскам, яна крытыкуе пазіцыю ўлад РБ

**Мінск.** Чарговых 2 мільярды долараў крэдыту Расіі, як заявіў эканаміст даследчага цэнтра BEROS Д. Крук хопіць краіне на паўгода, каб забяспечыць спакой на рынку валют.

**Гродна.** За паўторную п'яную язду суд пакараў 33-гадовую гараджанку 1,5 гадамі папраўчых работ і канфіскаваў іншамарку Opel яе лепшай сяброўкі.

**Мінск.** За атрымання хабар злітак золата і пляшку каньяка суд пакараў 6 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці былога намесніка генпракурора Беларусі М. Архіпава.

**Камянец.** У 27-гадовага жыхара раённага цэнтра канфіскавалі на граніцы да рашэння суда машыну і 160 кг мяса, якое ён увёз у спецыяльна выразаным баку-тайніку свайго Мерседэса.

**Мінск.** У кінатэатрах сталіцы "Ракета" і "Піянер" з'явіліся рэтраўтаматы савецкага часу для газіраванай вады, толькі замест стаканаў пластыкавая тара і купюры замест манет.

## Тэрмін рэалізацыі беларускімі ІП рэшткаў тавараў легпрама без дакументаў падоўжаны да 1 сакавіка 2015 года



■ Марыя Дзмітрыева, БЕЛТА

**Тэрмін рэалізацыі індывідуальнымі прадпрымальнікамі рэшткаў тавараў лёгкай прамысловасці, увезеных у Беларусь да 1 ліпеня 2014 года якія не маюць дакументаў аб іх адпаведнасці тэхнічным рэгламентам Мытнага саюза, падоўжаны да 1 сакавіка 2015 года, паведамляе БЕЛТА.**

Гэта прадугледжана пастановай Міністэрства гандлю, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, Міністэрствам аховы здароўя, Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі ад 6 мая 2014 года № 17/18/32/20, афіцыйна апублікаваным на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале. Дакумент уносіць змяненні і дапаўненні ў пастанову Міністэрства гандлю, Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, Міністэрства аховы здароўя, Дзяржаўнага камітэта па стандартызацыі ад 7 мая 2007 года № 28/35/38/27.

Згодна з дакументам суб'ектам гандлю дазваляецца працягнуць рэалізацыю рэшткаў тавараў лёгкай прамысловасці, увезеных у Беларусь да 1 ліпеня 2014 года, якія не маюць дакументаў аб іх адпаведнасці тэхнічным рэгламентам Мытнага саюза «Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці» (ТР МС 017/2011).

Прадаваць рэшткі прадукцыі, у прыватнасці, дазволена да 1 сакавіка 2015 года. Пры гэтым будзе захавана патрабаванне да ІП аб неабходнасці ў абавязковым парадку інфармаваць пакупнікоў аб адсутнасці названых дакументаў на рэалізуемы тавар. Пад суб'ектам гандлю разумеецца юрыдычная асоба, індывідуальны прадпрымальнік, якія ажыццяўляюць гандаль на тэрыторыі Беларусі.

Нормы дакумента не распаўсюджваюцца на тавары, якія падпадаюць пад дзеянне сертыфікатаў «Аб бяспекі прадукцыі, прызначанай для дзяцей і падлеткаў» (ТР МС 007/2011); «Пра бяспеку цацак» (ТР МС 008/2011); «Аб бяспекі парфумерна-касметычнай прадукцыі» (ТР МС 009/2011).

Адпаведнасць тавараў лёгкай прамысловасці, увезеных на тэрыторыю Беларусі з тэрыторыі краін МС, патрабаванням тэхнічных рэгламенту Мытнага саюза павінна пацвярджацца адпаведнымі дакументамі аб якасці, у тым ліку нацыянальнымі сертыфікатамі (дэкларацыямі аб адпаведнасці) Беларусі, Расіі, Казахстана (або іх копіямі).

Пры гэтым для індывідуальных прадпрымальнікаў - плацельшчыкаў адзінага падатку, якія рэалізуюць прадукцыю лёгкай прамысловасці ў розничных гандлёвых аб'ектах і на гандлёвых месцах на рынках, да 1 ліпеня 2014 года дзейнічае спрошчаны парадак пацвярджэння адпаведнасці гэтай прадукцыі патрабаванням ТР МС.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Гаспадаркі вобласці справіліся ў аптымальныя тэрміны з касавіцай траў першым укосам на плошчы 240 тысяч гектараў, што значна лепш леташніх паказчыкаў.

**Орша.** Мясцовы льнокамбінат запрасілі на буйную Пятроўскую ярмарку ў горадзе Плёс Іванаўскай вобласці РФ з поўным асартыментам выпускаемай прадукцыі і адзення.

**Лепель.** На 4-м раённым сходзе старэйшых вёсак дэпутат парламента П. Шыкшнян паведаміў, што восенню сельсаветам дазволяць ствараць участкі па аказанні паслуг.

**Паставы.** З-за перабояў з фінансаваннем тэрміны здачы ў эксплуатацыю новага льнозавода з бельгійскімі лініямі па выпуску валакна перанеслі з 1 мая на канец лета.

**Верхнядзвінск.** Спецыялісты мясцовага масласырзавода на міжнародным форуме сыра ў Мінску дамовіліся з калегамі з расійскага "Союз молоко" аб пашырэнні паставак у РФ.

**Браслаў.** Раніцай на тэрыторыі раёна пагранічнікі Полацкага пагранатрада затрымалі 4-х грамадзян Індыі, якія хацелі нелегальна трапіць у Латвію, сюды прыехалі на таксі з Расіі.

**Ушачы.** На радзіме славутага пісьменніка Васіля Быкава ў Бычках прайшлі ўрачыстасці з нагоды яго 90-годдзя, іх удзельнікі наведалі магілу класіка ў райцэнтры, ўсклалі кветкі.

**Глыбокае.** Напярэдадні 600-годдзя райцэнтра ў горадзе правялі чарговы суботнік па абкосе прыдарожных палос, многіх гараджан адправілі на нарыхтоўку зялёнай масы.

**Руба.** Амаль паўмесяца зніжаўся ўзровень вады ў Заходняй Дзвіне тут і ў самім Віцебску, МНС рэкамендаваў асцярожна плаваць па рацэ на плыўсродках, каб не сесці на мель.

**Сянно.** Прадстаўнікі грамадскасці заклікалі не дапусціць разбурэнне ўнікальнай драўлянай Обальскай царквы XIX стагоддзя, у якой хрысцілі главу БССР П. М. Машэрава.

**Орша.** Вечарам ля вёскі Пішчалава беспрацоўны п'яны 39-гадовы вадзіцель, пазбаўлены правоў, на Опелі збіў насмерць 13-гадовага веласіпедыста, уцёк, але быў затрыманы.

**Талачын.** У машыне "хуткай дапамогі" на адной з дарог раёна памерла раніцай невядомая жанчына, на яе на Сітраене наехала, робячы паварот, нявопытная жанчына-кіроўца.

**Докшыцы.** Калектыў Порплішчанскай СШ па-радавала, што 1 верасня прыйдуць вучыцца ўжо 8 першакласнікаў, у штаце з'явіўся садоўнік для абслугоўвання дэндрапарку школы.

**Віцебск.** Аргкамітэт "Славянскага базару" адмовіўся ад ранейшай практыкі запрашэння на фестываль пераможцу "Еўрабачання-2014" барадатую аўстрыйку Канчыту Вурст.

**Шаркаўшчына.** На беразе ракі Мнюта на працягу двух дзён праходзіў чарговы раённы турыстычны злёт з удзелам зборнай Пскоўскага раёна РФ, рускія занялі там 3-е месца.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Першы арышт

## Да 70-годдзя вызвалення Беларусі


Кадр з фільма «Маладая гвардыя»

*"Аляксандра Міхайлаўна Манцэвіч нарадзілася ў 1894 годзе ў сяле Велье Апачэцкага раёна Пскоўскай вобласці. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны працавала настаўніцай у Мёрскім раёне Вілейскай вобласці. У гады вайны – камісар партызанскага атрада "Масква" 4-й Беларускай брыгады. Узнагароджана пяццю медалямі".*
*(З кнігі "Людзі Нарачанскага краю", выд. "Беларусь", 1975, стар.478)*

**Барыс Манцэвіч,**
*член Беларускага Саюза журналістаў з 1958 года, інвалід II групы па зроку*

Жнівень 1941 года. Вёска Малая Кавалеўшчына Мёрскага раёна. Бацькі нашага Флора Данатавіча Манцэвіча ўжо не было: у Полацку, дзе ён у 1910 годзе закончыў настаўніцкую семінарыю, яго расстралялі акупанты за выступленне ў 1939 годзе ў Беластоку на Народным сходзе з дакладам "Аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад Беларускай ССР". Застаўшыся пад уладай гітлераўцаў, маці адразу разгарнула антыфашысцкую работу, якая з цягам часу закранула не толькі Мёрскі, але і Браслаўскі, Глыбоцкі, Дзісненскі раёны.

Не спалі і ворагі народа. На самым пачатку дзейнасці падполля да нас на коннай фурманцы з Мёраў за 12 кіламетраў завіталі лютыя паліцэйскія Кісель і Рынкевіч. Саскочыўшы з калёс, яны ўварваліся ў нашу наёмную кватэру.

– Усім заставацца на месцы, а то будзем страляць.

Калі ў першыя дні акупацыі забіралі радыёпрыёмнік і два веласіпеды (трэці застаўся ў нас, то нікая вобыску не рабілі. На гэты раз пароліся па шафах, пад сеннікамі, на гарышчы.

Аказваецца, "бобікі" шукалі крамольную літаратуру савецкага часу, фотаздымак членаў Паўнамоцнай камісіі Народнага сходу, якія 4 лістапада 1939 года сфатаграфаваліся ў Крамлі разам з членамі Палітбюро ЦК ВКП (б) на чале са Сталіным. Быў на здымку і наш бацька. І мы ад людзей гэтага не ўтойвалі. Відаць, нехта са здраднікаў і пра гэта данёс паліцэйскім. Але нічога вылюдкі ў чорных шынялях так і не знайшлі.

На кухні яны звярнулі ўвагу на поўныя мяхі. Памацалі рукамі – зерне. Не ведалі, што мяхі стаяць на вечку, адчыніўшы якое можна трапіць у падвал, дзе і захоўвалася палітычная літаратура з тым фотаздымкам.

Раззлаваныя нямецкія паслугачы папаролі штыкамі мяхі, і зерне дзейдзе пасыпалася долу. Гаспадыня Мар'я Кезік, у якой мы здымалі кватэру, залямантавала:

– Што вы, ірады, робіце?

– Маўчы, сцерва, а то і цябе арыштуем, – пачулася ў адказ.

А каго ж яны ўжо арыштавалі? І каго маюць намер арыштаваць? Загадка адразу раскрылася.

– Ну, Аляксандра Міхайлаўна, - звярнуўшыся да маці на Вы, сказаў адзін з няпрошаных візіцёраў, – збірайцеся. Загадана вас даставіць у Мёры.

– За што? – здзівілася мама. – Што я такога нарабіла?

– Мы самі не ведаем – там разбяруцца.

Усе заплакалі. Стогадовая бабуля Лена, бацькава маці, загаласіла:

– Сына забралі, а цяпер і нявестку?!

– Не плачце, бабуля, – супакойвала яе старэйшая сястра Тоня, – яны ні плачу, ні галашэння не разумеюць.

– І ты, камсамолачка, збірайся, – прагучала ў адказ пагроза.

– Дык вы тады ўсю сям'ю забірайце, – не вытрымала маці. – І ўсіх пяцёра дзяцей, і старую. А не што расстраляйце на месцы.

– А што ты думаеш? – звярнуўся да Кісяля Рынкевіч. – Добрая ідэя. Нам за гэта толькі дзякуй скажуць.

– Ну, хопіць жартаваць, – сказаў Кісель, – так што, Аляксандра Міхайлаўна, з Тоняй збірайцеся.

– А мне? А мне, што – паміраць? – не магла стрымаць слёзы баба Лена. – Хто мяне даглядаць будзе?

– Старэйшы ўнук, – кінуў у бок збянтэжанага трынаццацігадовага Юры Кісель. – Яго галава, відаць, добра петрыць. Кажуць, ён з акружэнцамі надта ў блізкіх адносінах быў. Так што, бабуля, можа і ён нам спатрэбіцца.

Абараняючы Тоню, маці сказала:

– Дык жа ёй хутка раджаць. Вы хоць гэта ўлічыце!

– І праўда… Пагледзі ты на яе кругленькі жывот, – зарагатаў Кісель. – А чаму ж твой Мельнікаў не захацеў цябе з сабой узяць?

– Цяжарных жанчын на вайну не бяруць. А так бы я там раненым байцам дапамагала.

– Ты чуеш? – не сунімаўся Кісель. – Яна над намі кпіны строіць.

Рынкевіч распарадзіўся:

– Паехалі. Тоня хай застаецца. Спатрэбіцца, і за ёй вернемся.

На дзіва, ужо натрэніраваныя на здзеках людскіх, гэтыя галаварэзы дазволілі маме з кожным развітацца. Цалуючы нас і стрымліваючы слёзы, яна гаварыла:

– Я не вінаватая, дзеткі, і хутка вярнуся. Шануйце адзін аднаго, не пакідайце ў бядзе бабулю. Цяжка будзе – прадайце насценны гадзіннік – ён дорага каштуе. Ды з нашага ўчастка бульбу выкапаеце.

– Хопіць, – рашуча заявіў Рынкевіч, – нешта ты, Міхайлаўна, разбалбаталася.

Во паразіт! Ведаючы аўтарытэт А.М.Манцэвіч у акрузе, ён, падонак, перайшоў на ты.

Гужам, праз чорны ход, праводзілі мы маму. Не выйшла на вуліцу толькі бабуля. Сіл не хапала. Аднаго сына фашысты расстралялі, другі, памочнік камандзіра палка Чырвонай арміі, будуе Беламорканал. Невядомы лёс трэцяга, самага старэйшага. Штосьці з Горкага не было ад яго ніякіх вестак.

Конь зачакаўся і біў капытом зямлю – піць захацеў. Юру загадалі прынесці вады – рэчка Волта была побач.

Пасадзіўшы маму наперадзе, паліцыянты, не звяртаючы на нас увагі, палявой дарогай вярнуліся на бальшак Дзісна-Мёры. Мама ўсё аглядалася, і пакуль яна бачыла нас, махала рукой.

Ухату доўга ніхто не ішоў. Як жыць далей? Што рабіць? Гэтыя пытанні ўзнікалі ў першую чаргу перад Тоняю і Юрам, які хоць і быў на сем гадоў маладзейшы за сястру, аднак ва ўсіх справах разбіраўся па-даросламу. І праўда, ён моцна пасябраваў з акружэнцамі, якія перадалі яму некалькі вінтовак, пару цынкавых скрыначак да аўтаматных патронаў. Дапамагаў разам з мамай перапраўляцца праз З. Дзвіну, папярэдне забяспечыўшы некаторых, у прыватнасці афіцэраў Кудаева і Светлалобава, цывільным адзеннем. Бацьку яно ўсёроўна ўжо было непатрэбным.

Але на гэта раз, як мне пазней здавалася, мой старэйшы брат разважаў па-дзіцячы:

– Пры жаданні мама магла ўцячы. Гэта тады, як яна стаяла на парозе адчыненых на вуліцу дзвярэй. Я звярнуў увагу на тое, што карабіны ў абодвух былі незараджаныя. Пакуль бы яны іх зарадзілі, мама была б за Волтай у кустах, а дагнаць яе паліцэйскія не змаглі б – я б ім адразу дарогу перагарадзіў бы.

– Ну і што? – разважала Тоня. Няхай бы мама ўцякла. А што б сталася з намі? Ды і дзе б мама хавалася? Да наступлення халадоў жыла б у нейкім будане. А далей?

– А там, глядзіш, і партызанскія атрады сталі б паяўляцца, – ужо зусім па-даросламу стаў разважаць Юра.

Ён быў упэнены, што Светлалобаў і Кудаеў падаліся ў вялікі лес, каб згуртаваць тых, хто выйшаў з акружэння і мясцовых мужчын у адзін атрад і пачаць барацьбу з ворагам. Да многіх дайшоў сэнс выступлення 3 ліпеня Сталіна, у якім і змяшчаўся заклік да савецкага народа на акупаванай тэрыторыі ствараць партызанскія атрады.

Рацыянальнай была прапанова Тоні. Яна ясна адказала на пытанне, што рабіць.

– Нашу сям'ю ведаюць ва ўсёй акрузе. Не аднаго бацькі выручалі з бяды, таму наша гора яны ўспрымуць як уласнае. Кожны здраднік хціваы да нажывы. Трэба неадкладна пачаць збор грошай для выкупу мамы. Калі паліцэйскія яе арыштавалі, то праз іх начальніка і дзейнічаць трэба. А пакуль што, Юра, сядай на веласіпед (у нас перад вайной было аж тры веласіпеды – два паліцэйскія адабралі) – і ў Мёры. Разведай, куды маму павезлі. Напэўна ж, у Мёрах яе і будуць трымаць. А ты, Ліда, пачнеш збор грошай.

– А куды я пайду?

– Да першых маміных падпольшчыкаў: Шаховічаў, Пахіркаў, Капахаў, Віці Сушко ды і да многіх іншых добрых знаёмых. Толькі не да багатых.

– Дык іх у нашым наваколлі, бадай што, няма. Хіба Дамінічак…

– Да яго – не трэба. Ён толькі пад сябе грабе.

*(Як пазней, ужо ў 1956 годзе, цераз КДБ я даведаўся, што гэты чалавек у змове з двума іншымі здраднікамі выдаў гітлераўцам нашага бацьку).*

Усе, за выключэннем мяне з Жэнем і бабуляй некалькі дзён збіралі сродкі для выкупу першай падпольшчыцы. У каго не было грошай, прапаноўвалі якія-небудзь каштоўныя рэчы. Паліцэйскія яшчэ адкрытым марадзёрствам не займаліся, а хабар любілі.

Пакуль ішоў збор грошай, Юра ўжо не адзін раз пабываў у Мёрах. Перадачы прымалі, але ад спатканняў, як правіла, адмаўлялі. Усё залежыла ад таго, хто дзяжурыць ля паліцэйскага ўчастка. Бывала, што на пост траплялі і тыя, хто нас ведаў і спачуваў нам. Бывалі і такія паліцэйскія. А Тоня з-за сваёй цяжарнасці прыходзіла ў Мёры рэдка. Калі ж даводзілася ўбачыцца з мамай, то пра падполле, вядома, ніякай гамонкі не вялося. Маму цікавіла здароўе Тоні, якая праз месяц-паўтара павінна нарадзіць малога. А муж, сакратар Мёрскага райкама камсамола Іосіф Мельнікаў, загінуў у першыя дні вайны.

Аднойчы, адпраўляючыся пешшу ў Мёры, Юра ўзяў мяне з сабой.

– Мне патрэбны будзе памочнік, – сказаў ён.

Па дарозе ў вёсцы Малая Глінаўка брат забраў у адной з падпольшчыц нейкую паперку, сунуўшы яе за шкарпэтку. Уже перад касцёлам, ад якога за рэчкай Мёрыцай пачыналіся Мёры, мы збочылі ўправа, каб на масце не напароцца на пост, і, перайшоўшы рэчку, выйшлі на вуліцу Горкага, якая, упіраючыся ў рэчку, налічвала каля дзясятка дамоў, першым з іх быў цагляны аднапавярховы дом, дзе перад вайной размяшчалася міліцыя. Цяпер тут гаспадарылі немцы і паліцаі. А ў канцы калідора, налева, пару пакояў займала за кратамі турма.

Турэмны двор быў абнесены высокім плотам. Відаць, ставілі яго з сырога матэрыялу, і дошкі рассохліся, таму паміж імі ўтварыліся добрыя шчыліны, праз якія можна было назіраць за тым, што ля турэмнага будынка робіцца.

Зверху да плота быў прымацаваны калючы дрот, і Юра, стаўшы на нейкі камень, накінуў на плот свой пінжак і хутка апынуўся на тым баку. Я стаяў за вартавога. Здалёк можна было бачыць за кратамі маму, якой мой брат і перадаў патаемную запіску. Размаўляць не было часу. Праз якую хвіліну Юра быў ужо на "маім" баку. Ён абуў чаравікі, і мы накіраваліся дадому. Ішлі праз мост, бо пры нас ніякіх крамольных рэчаў не было.

Яшчэ маму трымалі некалькі дзён, і Юра яе наведваў пастаянна. Аднойчы ён стаў сведкам страшнай трагедыі, што адбылася ў турэмным двары. У сваіх успамінах брат так пісаў:

# падпольшчыцы



*“Аднойчы ў двор турмы вывелі маю маці і Іофэ – рабочага-камуніста. Яму ўручылі кавалак гумовага шланга з жалезным наканечнікам і загадалі біць маю маці. Іофэ вельмі добра ведаў маю сям'ю, з'яўляўся сябрам бацькі. Вядома, Іофэ катэгарычна адмовіўся выканаць загад. Тады паліцэйскія паспрабавалі прымусіць маці катаваць Іофэ. Яна таксама гэта не стала рабіць. Азвярэлыя паліцаі накінуліся на вязняў. Збілі іх з ног, лупілі ботамі, дубінкамі. На Іофэ накінулі драўляныя дзверы і наладзілі на іх дзікія скокі. У яго з роту хлынула кроў. Маме разарвалі адзенне і спаласавалі спіну. Наталіўшыся лютай расправай, паліцэйскія зніклі, пакінуўшы свае ахвяры на дварэ. Усё гэта я бачыў праз шчэлкі плоту.*

*Апрытомнеўшы, мама зняла з Іофэ дзверы, прыпадняла яго і пацягнула ў камеру.*

*На наступны дзень Іофэ вывезлі ў лясное ўрочышча Крукаўка, што размяшчалася паблізу Мёр, і расстралялі”.*

Праз колькі дзён пасля памянёнай экзэкуцыі Юра з сабранымі сялянскімі ахвяраваннямі ў апошні раз адправіўся ў Мёры на спатканне з мамай. Дакладней, не з мамай, а з начальнікам раённай паліцыі Мар'янам Томкам, якога ўжо ведалі, як зацятага галаварэза. На службе яго не аказалася. Там сказалі, што ён адпачывае пасля “начной работы”. А дзе жыве гэты бандзюга – брат ведаў, у доме, дзе перад вайной кватараваў начальнік райаддзела міліцыі Сарокін са сваёй сям'ёй. З яго дзецьмі Жэнем, Лізай і Валяй мы ў 40м годзе, калі часова жылі ў Мёрах, блізка падружыліся.

Угледзеўшы, што Юра з'явіўся не з пустымі рукамі, Томкава жонка ці служанка выклікала гаспадара. Той запрасіў падлетка ў калідор.

– Ну, паказвай, што прынёс, – пацягваючыся пасля сну, пацікаваўся Томка, - думаю, не анучы якія-небудзь.

Юра спачатку палез ва ўнутраную кішэню пінжака, але Томка, нібы варам абліты, прытрымаў яго за руку.

– Ну, што там у цябе?

Пачкі грошай не стаў лічыць, а вось саматканую новую квяцістую капу разгарнуў і доўга любаваўся ёй.

– Файная рэч. Згадзіцца. Ладна, - стаў больш лагодным крывапійца. – Пагуляй па мястэчку, у цябе ж тут, напэўна, шмат знаёмых. А надвячоркам завітаеш да мяне на службу. Адпусцім тваю матку. Трэба ж такія-сякія дакументы выпісаць, ды і жандармерыю давесці да ведама. Пастарайся такога-сякога адзення для маткі раздабыць. А то на ёй адны разманы.

Праз колькі гадзін на руках у Юры была даведка, што Манцэвіч Аляксандра Міхайлаўна вызвалена з-пад арышту і разам з сынам Георгіем вяртаецца ў сваю вёску Малая Кавалеўшчына. Дакумент даваў права рухацца па любой вуліцы мястэчка.

Спачатку мама падбадзёрвала сябе, але праз колькі метраў Юра зразумеў, што ісці самастойна яна не зможа, таму ён не проста дапамагаў рухацца, а сілаю цягнуў яе за сабой.

Так яны пераадолелі мост праз Мёрыцу і прыселі ў канаве, спадзеючыся, што, можа хто-небудзь са знаёмых трапіць на вочы.

На шчасце, аднекуль вярталася Сафія Міхайлаўна Пахірка, тая самая Зося-інвалід (са спіной не ўсё было ў парадку), якая славілася на ўсю акругу сваім кравецкім майстэрствам і дапамагала маім бацькам гадаваць дзяцей. Разам з Зосяй Юра ўсцягнуў маму на калёсы, і яны памаленьку паехалі.

– Ты ж, Зосечка, не гані коніка, а то мне ўсё цела баліць, – прасіла мама.

У спадзяванні, што нарэшце мама вернецца дадому, мы, дзеці, далёка ад хаты не адлучаліся, а Тоня дык амаль увесь час прастаяла на ганку. Не зводзячы вачэй з палявой дарогі, сядзела на лавачцы баба Лена.

Пакуль Тоня абмывала крывавыя раны мамы, цётка Мар'я загадала сыну Сяргею выцепліць лазню. Казала яму:

– Хоць збольшага, бо Аляксандра Міхайлаўна ўсёроўна хвастацца не будзе.

Пасля першага арышту маці яшчэ доўга не магла ачуняць ад паліцэйскіх экзэкуцый, але распачатую антыфашысцкую работу не пакідала. Не скарылася А.М.Манцэвіч і пасля другога арышту, але тады мы ўжо жылі ў в. Чэрасы Мёрскага раёна, дзе, як ні дзіўна, а акупанты назначылі маю сястру Антаніну дырэктарам так званай “народнай школы”, а маці тут працавала настаўніцай. Пазней усе настаўнікі гэтай 5-гадовай школы падаліся ў партызаны. А наша сям'я перасялілася ў лес у поўным складзе 2 верасня 1943 года, калі над ёю навісла смяротная пагроза. І маці, і ўсе яе дзеці прадоўжылі барацьбу з ворагам у 6-м атрадзе 4-й Беларускай партызанскай брыгады. Напярэдадні 1944 года на агульным сходзе падпольшчыкаў раёна, які праходзіў у доме, дзе мы жылі, быў створаны партызанскі атрад “Масква”, які аператыўна падпарадкоўваўся 4-й БПБ. Маці на гэтым сходзе выбралі (не назначылі) камісарам атрада.




# Ніхто не забыты, нішто не забыта?

**Гэта выслоўе было вельмі папулярным за савецкім часам, часта яно ўжываецца і зараз, асабліва на афіцыйных мерапрыемствах. А як на самай справе?**

**■ Зміцер Лупач**

Звернемся да канкрэтнага прыкладу – воінскае пахаванне ва ўрочышчы Барок пад Глыбокім. Згодна надпісу на помніку, тут пахавана звыш 27 тысяч чалавек. А колькі ж прозвішчаў пералічана на помніку? Я налічыў толькі 79. Няўжо толькі іх імёны дайшлі да нас?!

Як вядома, немцы стварылі лагер для ваеннапалонных у Беразвечы ў ліпені 1941 года. Для гэтых мэтаў з боку возера Падлазнае была агароджаная тэрыторыя, што прымыкала да былога кляштара. У першыя месяцы ваеннапалонныя ўтрымліваліся пад адкрытым небам. Як сцвярджаюць сведкі тых падзей, кожны дзень ад голаду, холаду, хвароб, нечалавечага абыходжання гінула ад 200 да 500 чалавек. Людзей звозілі ў ямы, якія капалі самі ваеннапалонныя, што знаходзіліся на другім беразе возера.

Даследчыкі сцвярджаюць, што лічба ў 27 тысяч чалавек, што ўказана на мемарыяле, цалкам праўдападобная. Зараз ужо вядома значна больш прозвішчаў ахвяр, чым тыя 79, што ўказаныя на помніку. Прыкладўшы намаганні, можна знайсці іх яшчэ больш. Таму гэту работу неабходна весці, каб імёны гэтых людзей былі ўшанаваныя.

Так, магілы ў нас даглядаюцца. Іх прыбіраюць, падфарбоўваюць агароджы, косяць траву. Сёлета ў Барку нават паклалі новую плітку. Праўда, пры гэтым паездзіўшы трактарам па магілах, сляды ад чаго не могуць зарасці і зараз.

Некалькі разоў на год тут ускладаюцца вянкі і кветкі. Але, я лічу, гэтага мала. Мы павінны годна ўшанаваць імёны тых, хто знайшоў апошні прытулак у глыбоцкай зямлі.

На жаль, няма ніякага памятнага знаку і на тым месцы, дзе размяшчаўся лагер для ваеннапалонных. А гэта ж зямля вельмі шчодра палітая крывёй ахвяр, якія заслугоўваюць таго, каб іх памяталі.

Лічу, што нам, як нашчадкам, што жывуць на гэтай зямлі, трэба выправіць гэту сітуацыю.



**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Уведзеныя новыя правілы рыбалоўства: Лавіць рыбу можна не больш чым на 5 кручкоў

## ад 6 да 10 кручкоў – толькі членам ГА "Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў"

З 26 чэрвеня 2014 года ў дзеянне ўступілі новыя Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, якія значна адрозніваюцца ад раней дзейсных, як па аматарскім рыбалоўстве, так і прамысловым.

Так, Права на бясплатнае аматарскае рыбалоўства спосабамі, ўказанымі ў пункце 72 Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства (далей Правілаў):

- **лоўлю рыбы з ужываннем прылад аматарскага рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў ад 6 да 10 штук на рыбалова;**
- **лоўлю рыбы на дарожку з судоў з рухавікамі. Пры лоўлі рыбы на дарожку з судоў з рухавікамі дазваляецца выкарыстанне адной прынады ці прынады на аднаго рыбалова;**
- **падводнае паляванне;**

маюць рыбаловы, якія з'яўляюцца членамі Рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання "Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў". Пералік вадаёмаў, на якіх лоўля вышэйуказанымі спосабамі забаронена, зацвярджаецца Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання па ўзгадненні з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь. Пры паступленні ў Глыбоцкую МРІ пераліку вадаёмаў Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў, дзе забаронена лоўля рыбы інтэнсіўным спосабам, ён будзе апублікаваны ў раённых сродках масавай інфармацыі дадаткова. На ўсіх вадаёмах дазволена лоўля рыбы дазволенымі прыладамі рыбалоўства з ужываннем колькасці кручкоў да 5 штук (наяўнасць членскага квітка "БТПР" не абавязкова), за выключэннем перыяду абмежаванняў і забароны, дазваляецца лоўля рыбы з выкарыстаннем толькі адной вуды з адным кручком ці спінінгам у светлы час сутак **па Віцебскай вобласці з 10 красавіка па 8 чэрвеня;**

> **За выяўленае побач з рыбаком смецце нясе адказнасць той грамадзянін, які быў затрыманы на месцы.**

- **лоўля шчупака** забаронена па Віцебскай вобласці з 9 сакавіка па 25 красавіка,
- **судака** з 15 красавіка па 30 траўня,
- **сома** звычайнага з 31 траўня па 1 ліпеня, з 1 лістапада па 31 сакавіка,
- **мянтуза** звычайнага з 25 снежня па 28 лютага,

Зменена прамысловая мера на асобныя віды рыбы пры аматарскім і прамысловым рыбалоўстве.

Так, дазволены да вылоўлівання – прамысловы памер:

| | | |
|---|---|---|
| - | **шчупак** | **- 40 см.** |
| - | **язь** | **- 25 см.** |
| - | **лін** | **- 22 см.** |
| - | **судак** | **- 40 см.** |
| - | **карп** | **- 20 см.** |
| - | **сом** | **- 70 см.** |
| - | **мянтуз** | **- 36 см.** |
| - | **галавень** | **- 25 см.** |

За незаконную здабычу рыбы забароненымі прыладамі і спосабамі рыбалоўства значна павялічаны таксы для вызначэння памеру пакрыцця шкоды, прычыненага навакольнаму асяроддзю фізічнымі і юрыдычнымі асобамі.

Так, за незаконную здабычу асобных відаў рыб сума прычыненай шкоды складае напрыклад:

**– шчупак – 3 базавых велічыні ці 450 тысяч рублёў.**

**– карп – 6 базавых велічынь ці 900 тысяч рублёў.**

**– лін – 6 базавых велічынь ці 900 тысяч рублёў.**

**– карась залаты – 6 базавых велічынь ці 900 тысяч рублёў.**

**– галавень – 9 базавых велічынь ці 1 млн. 350 тысяч рублёў.**

Усе таксы за незаконнае вылоўліванне рыбы павялічаны ў 3-5 разоў, аматарам палавіць рыбу сеткамі ці іншымі забароненымі прыладамі і спосабамі неабходна добранька падумаць, перш чым ісці на рыбалку. Пры гэтым, сума прычыненай шкоды, з якой настае крымінальная адказнасць, засталася ранейшай, **40 базавых велічынь.** Нескладана палічыць, што за незаконнае вылоўліванне 7 асобінаў ліна, карпа, карася залатога наступіць крымінальная адказнасць, якая прадугледжвае максімальнае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 3 гадоў.

У дзейсныя правілы занесена шэраг істотных змен, якія рыбаловы-аматары абавязаны ведаць. Забаронены выкід смецця, а за выяўленае побач з рыбаком смецце нясе адказнасць той грамадзянін, які быў затрыманы на месцы. Усе кружкі, сцяжкі, жарліцы, стаўкі павінны быць падпісаныя і лоўлю ажыццяўляць толькі той грамадзянін, які ўказаны на прыладах рыбалоўства. Паважаныя рыбаловы-аматары, уважліва чытайце новыя правілы рыбалоўства, каб не стаць іх парушальнікам.

У рамках аднаго газетнага артыкула ўсе нова ўвядзенні растлумачыць не магчыма, таму ў ліпені-жніўні супрацоўнікамі міжрайінспекцыі будуць праведзеныя "прамыя лініі" па растлумачэнні заканадаўства. Па ўсіх пытаннях Вы можаце звярнуцца ў Глыбоцкую МРІ па тэлефонах: 8-(02156)-2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02, 890-55-28, 645-66-78, 249-45-49.



**Караць браканьераў будуць сурова. За 7 незаконна вылаўленых ліноў, напрыклад, можна патрапіць за краты на 3 гады.**

# Праверкі паказалі...

У адпаведнасці з кардынальным планам кантрольнай (нагляднай) дзейнасці Віцебскай вобласці на першае паўгоддзе 2014 г. у траўні месяцы інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС завершаныя праверкі забеспячэння пажарнай бяспекі філіяла «Галубічы» ААТ «Глыбоцкі мясакамбінат» (дырэктар Вайцяховіч І,Ф.) і сельскагаспадарчага філіяла "Стрынадкі" КУПП "Полацкі вінаробны завод" (дырэктар Стэфановіч В.В.).

Пры праверцы дадзеных суб'ектаў выяўлена, што:

– першаснымі сродкамі пажаратушэння філіялы ўкамплектаваныя не ў поўным аб'ёме;

– маюцца значныя парушэнні правіл устройства і эксплуатацыі электраўстановак (не ўсе электрычныя свяцільні на аб'ектах эксплуатуюцца з ахоўнымі плафонамі, электрычныя правады і кабелі эксплуатуюцца са скручваннямі токаводных жыл);

– вонкавае супрацьпажарнае водазабеспячэнне маецца, аднак не адпавядае патрабаванням – вадакрыніцы, прызначаныя для мэт тушэння пажараў, не забяспечаны пад'эзнымі дарогамі і пляцоўкамі для ўстаноўкі пажарных аўтамабіляў, пазначэнні водакрыніц не адказваюць патрабаванням СТБ, воданапорныя вежы не абсталяваныя прыладамі для забору вады пажарнымі аўтамабілямі;

– навучанне працаўнікоў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме: не ў кожным памяшканні вывешаныя на бачных месцах інструкцыі аб мерах пажарнай бяспекі; на тэрыторыі прадпрыемства дапушчаецца курэнне ў месцах, не прадугледжаных для гэтых мэт;

– на вонкавым боку дзвярэй вытворчых і складскіх памяшканняў адсутнічаюць указальнікі катэгорыі па выбуха- і пажарнай небяспекі і класа зоны па ПУЭ;

– кіраўніцтвам суб'ектаў не выдаткоўваецца неабходнае фінансаванне на прывядзенне аб'ектаў у належны супрацьпажарны стан.

Па выніках праведзеных праверак кіраўнікі і службовыя асобы дадзеных суб'ектаў прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

Таксама было праведзена тры кантрольныя праверкі: ПГУП «Міхайлаўка-Аўта» (дырэктар Даледудка С.Л.), ПУП па аказанні паслуг "Цэнтр прыгажосці "Клеапатра ЛНС" (дырэктар Снарковіч С.С.) і ПГУП «Пан Круль» (дырэктар Чачукевіч С.В.), якія паказалі, што кіраўніцтвам суб'ектаў раней атрыманыя прадпісанні выконваюцца, але не ў поўным аб'ёме.

За невыкананне пунктаў прадпісання інспекцыі нагляду і прафілактыкі на кіраўнікоў дадзеных суб'ектаў складзены адміністрацыйныя пратаколы.

*Інспекцыя ІНІП Глыбоцкага РАНС.*

## МНС інфармуе

**на 30.06.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 572;
Гібель людзей – 66, з іх 2 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 24;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 494.87 млн. руб.

# Сталі больш жорсткім меры адказнасці грамадзян:

## у 3 разы павялічаныя таксы пакрыцця прычыненай прыродзе шкоды

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

У дзеянні ўступілі новыя Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у якіх з'явілася шмат змен і дадаткаў. Асобныя палажэнні Правіл значна паляпшаюць і палягчаюць працэс рыбалоўства, так павялічылася колькасць вадаёмаў, на якіх дазволены тролінг, у той час, тролінг можа ажыццяўляцца толькі адным спінінгам, для падводнага палявання таксама павялічана колькасць вадаёмаў і яшчэ цэлы шэраг змен. Сталі больш жорсткім меры адказнасці грамадзян пры незаконнай здабычы рыбы забароненымі прыладамі рыбалоўства і спосабамі, у разы (2 а часам і ў 3 разы) павялічаныя таксы пакрыцця прычыненай прыродзе шкоды. Па дзейсных Правілах, парушальнік, які незаконна (сеткамі і інш. забароненымі, прыладамі) здабыў 7 асобінаў ліна, будзе несці крымінальнай адказнасць, а таму аматарам экстрыму неабходна напачатку, добра падумаць, перш чым парушаць закон.

Нягледзячы на цвёрдыя меры адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці, якія ўжываюцца да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету штотыдзень затрымоўваюць парушальнікаў. Толькі за чэрвень бягучага года спынена больш 27 грубых парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, у парушальнікаў канфіскавана больш за 2 км. сетак, 2 стрэльбы для падводнага палявання, акумулятары, фары, мярэжы, пад'ёмныя сеткі, словам увесь браканьерскі набор.

Прыведзеныя ніжэй прыклады – паказваюць адносіны дзяржавы да парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства. Велізарныя штрафы і сумы прад'яўленай шкоды выразна даюць зразумець несвядомым грамадзянам, а гэта ўсё штрафы і ўрон – прад'яўлены парушальнікам яшчэ пры дзеянні старых Правіл.

Так, 9 чэрвеня каля 18 гадзін супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі каля в. Пятроўшчына Глыбоцкага раёна затрыманыя двое мясцовых жыхароў Буцько Валянцін і Зеляньковў Алег, якія лавілі ракаў у перыяд забароны, з дапамогай бродніка, здабыць паспелі ўсяго то, 6 асобінаў, але сума штрафу ў памеры 1 млн. 950 тысяч рублёў і ўрон, які неабходна пакрыць дзяржаве, у суме 1 млн. 485 тысяч рублёў, зусім не маленькі.

12 чэрвеня 2014 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Свідна Пастаўскага раёна затрыманы жыхар г. Мядзел Шакола Павел Альфрэдавіч, які ажыццяўляў здабычу рыбы пры дапамозе стрэльбы для падводнага палявання. Падводнае паляванне на дадзеным возеры забаронена, і парушальнік пра гэта добра ведаў. Аднак, вырашыў праігнараваць закон, за што і паплаціўся – канфіскаваныя стрэльбы для падводнага палявання, ласты, а Шакола П.А. дадвергнуты штрафу ў памеры 25 базавых велічынь ці 3 млн. 750 тысяч рублёў. Вось такая дарагая рыбалка!

Па ўсіх пытаннях Вы можаце звярнуцца ў Глыбоцкую МРІ па тэлефонах: 8-02156-2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02, 890-55-28, 645-66-78, 249-45-49.

